www.nv-online.info

№ 2 (3845)

10 студзеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭМА ДНЯ

# Абое рабое

Даючы старт мясцовым выбарам, Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да небезвядомай Ярмошынай, сказаў:

— Я так разумею, Лідзія Міхайлаўна, перыяд дыктатуры заканчваецца, пачынаецца этап дэмакратыі.

Гэтыя словы ды Богу ў вушы! На жаль, не дайшлі яны да яго. Вось вынікі першага этапу кампаніі: у тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі не патрапілі нават тыя нешматлікія прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці, якія раней хоць і са скрыпам, але праціскаліся ў некаторыя акругі. Сёлета дамагчыся гэтага змаглі толькі пяць чалавек. Сярод іх няма ніводнага, чыё прозвішча было б вядома шырокаму колу грамадскасці. Чацвёра "шчаслівцаў" з'яўляюцца шараговымі сябрамі Партыі левых "Справядлівы свет", адзін — Партыі БНФ.

Што тут можна сказаць? Не было ў Беларусі на працягу апошніх 20 гадоў свабодных, дэмакратычных выбараў — мабыць, не будзе і на гэты раз. Па ўсім бачна, што перыяд дыктатуры не заканчваецца, як і не пачынаецца этап дэмакратыі. Мала чаго нагаварыў А.Лукашэнка за час прэзідэнцтва!

Але ж кідаць камяні толькі ў аднаго Лукашэнку — не зусім справядліва. Вылучылі б дэмакратычныя структуры тысяч сем-восем прэтэндэнтаў — магчыма, і прайшлі б у выбарчыя камісіі чалавек 500—600. А яны ж, дэмакраты, прапанавалі толькі... 65 асоб. Зарэгістравалі пяць — 3,25 працэнта ад агульнай колькасці. Калі ўлічыць, якую прапорцыю маюць дэмпартыі сярод усіх астатніх структур, жадаючых удзельнічаць у мясцовых выбарах, то, бадай, тыя пяць чалавек, якія трапілі ў выбарчыя камісіі, адпавядаюць сённяшняй грамадска-палітычнай сітуацыі.

Як кажуць у народзе, абое рабое. Сённяшнія ўлады не настроены на сапраўдныя дэмакратычныя выбары, а тыя, хто імкнецца перахапіць уладу, не надта дзеля гэтага абцяжарваюць сябе. Вылучэнне ў выбарчыя камісіі ўсяго 65 чалавек — ці ж гэта не пародыя на палітычную актыўнасць нашых хатніх дэмакратаў?

**Пётр СКУРАТОВІЧ.**

МЕРКАВАННЕ

## *Сяргей ВАЗНЯК, былы член акруговай выбарчай камісіі: «Чаму важна ўваходзіць ва ўчастковую выбарчую камісію...»*

*— У дэмакратычна думаючага чалавека ёсць магчымасць падпісаць пратакол "з асаблівым меркаваннем". Я ў першым і другім выпадках падпісаў пратакол з указаннем тых парушэнняў, якія я заўважыў. Але значна больш важна быць сябрам участковай камісіі. Ні разу я туды не патрапіў, хаця некалькі разоў імкнуўся. Туды патрапіць цяжэй за ўсё. Улады не вельмі баяцца акруговых камісій, бо там, калі адзін ці два апазіцыянеры напішуць асаблівае меркаванне, то і няхай сабе. Што да ўчастковай камісіі, то раптам прынцыповы сябра падпіша кожны бюлетэнь, бо ён мае права падпісаць і асабіста пералічыць усе бюлетэні? А што, калі ён не пойдзе на павадку старшыні камісіі, каб палічыць толькі той стосік, што яму даў старшыня, а скажа, што не падпіша пратакол, пакуль не падлічыць усе бюлетэні? Таму я за тое, каб дэмакратычныя партыі і рухі вылучалі сваіх кандыдатаў і каб яны там добрасумленна працавалі.*

ДАВЕДКА

**У склад 1328 тэрытарыяльных выбарчых камісій па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў 27-га склікання ўключана 10.607 чалавек. Ад палітычных партый — 97 чалавек, большасць з якіх — 71 чалавек — з'яўляюцца членамі Камуністычнай партыі Беларусі.**

ПРАЕКТ

## *Днепр—Вісла—Одэр*

У Пінску рыхтуюцца да працоўнай сустрэчы экспертаў партнёрскіх арганізацый праекта па адраджэнні воднага шляху Днепр—Вісла—Одэр. Сустрэча ў Пінску стане першым мерапрыемствам у рэалізацыі праекта і запланавана на другую палову студзеня.

Праект "Аднаўленне магістральнага воднага шляху Е-40 на ўчастку Днепр—Вісла: ад стратэгіі да планавання" падтрымаў Еўрапейскі Саюз, які выдаткуе звыш 900 тысяч еўра. Таксама падтрымку аказвае Міністэрства інфраструктуры Польшчы, Міністэрства транспарту і сувязі Украіны, а таксама Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ



## І смех, і грэх

Бялыніцкі райвыканкам прыняў важныя рашэнні, якія датычацца правядзення выбарчай кампаніі па выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў 27-га склікання.

У адпаведнасці з рашэннем №1-22 вызначаны месцы, забароненыя для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Як сцвярджаюць мясцовыя актывісты, фактычна пад забарону для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў у Бялынічах трапілі ўсе больш-менш людныя месцы.

Для правядзення сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі ў Бялынічах вызначаны раённы цэнтр культуры, на тэрыторыі сельскіх Саветаў — мясцовыя ўстановы культуры і адукацыі. А вось для правядзення ў апавяшчальным парадку масавых мерапрыемстваў (сходаў па-за памяшканнямі, мітынгаў, пікетавання), якія арганізуюцца кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых Саветаў і іх даверанымі асобамі, вызначана пляцоўка перад сцэнай у... ліпавым гаі.

Неабходна адзначыць, што бялыніцкія чыноўнікі ў апошнія выбарчыя кампаніі традыцыйна выбіраюць ліпавы гай, які ў зімовы перыяд мясцовыя жыхары практычна не наведваюць, як месца для правядзення кандыдатамі ў дэпутаты масавых мерапрыемстваў. Толькі падчас прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2010 года мясцовыя дэмакратычныя актывісты змаглі дамагчыся, каб праводзіць пікетаванне было дазволена ў іншых месцах. Зараз жа зноў бялыніцкія чыноўнікі прапануюць кандыдатам у дэпутаты праводзіць масавыя мерапрыемствы ў абсалютна бязлюдным месцы сярод бадзяжных сабак і варон.

**Алесь ПІЛЕЦКІ.**

ВІНШУЕМ!

## *Новыя лаўрэаты*

*Сталі вядомы лаўрэаты прэміі "За духоўнае адраджэнне" 2013 года.*

Сярод іх — **Мікалай Мятліцкі,** галоўны рэдактар часопіса "Полымя": за пераклад на беларускую мову кнігі "Пад крыламі Дракона. Сто паэтаў Кітая". За стварэнне высокамастацкіх жывапісных твораў прэмія прысуджана таксама мастаку **Уладзіміру Кожуху.** Аўтарскі калектыў АТН Белтэлерадыёкампаніі ў складзе рэдактара **Алены Борматавай**, рэжысёра **Марыі Жукавай** і загадчыка аддзела навін культуры **Міхася Рэвуцкага** стаў лаўрэатам прэміі за стварэнне дакументальных фільмаў "Слуцкія паясы. Тайныя знакі", "Міхаіл Савіцкі. Тайны біяграфіі", "Радзівілы. Тайны сям'і", "Нацыянальная дылогія. Статуты ВКЛ", "Нацыянальная трылогія: Герб, Гімн, Флаг", "Імя яму — Храм". **Дзмітрый Астрахан,** вядучы конкурсу "Я спяваю!" ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал", **Алена Лобач,** выканаўчы прадзюсар дырэкцыі спецпраектаў, **Анжэла Мікульская,** дырэктар дырэкцыі спецпраектаў, удастоены прэміі за значны ўклад у развіццё творчых здольнасцяў таленавітых дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў, дзяцей з няпоўных і шматдзетных сямей.

Сярод лаўрэатаў — намеснік дырэктара СШ №3 г.Наваполацка, кіраўнік узорнага хору "Звонкія галасы" **Альберт Кажушкевіч,** дырэктар Антопальскага раённага цэнтра рамёстваў Драгічынскага раёна **Галіна Сцепанюк** і многія іншыя.

**Кастусь ВЯРБІЦКІ.**

ПРАТЭСТ

## *Накіпела*

8 студзеня магілёўскія актывісты падалі заяўку на правядзенне мітынгу пратэсту супраць росту коштаў, падаткаў і зніжэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва.

Арганізатарамі выступілі Уладзімір Шанцаў (Аб'яднаная грамадзянская партыя), Зміцер Салаўёў (Партыя БНФ) і Юрый Новікаў ад свабодных прафсаюзаў.

Згодна з пададзенай заявай, мітынг запланаваны на 25 студзеня (12.00) у спецыяльна адведзеным уладамі месцы для правядзення масавых акцый — на стадыёне "Хімік".

Зараз актывісты чакаюць, ці будзе дазволены пратэст у адведзеным пад пратэсты месцы.

ПАД ГРАДУСАМ

## *...І прыйдзе зіма*

Атлантычныя цыклоны, якія яшчэ на пачатку зімы перакрылі доступ халоднаму паветру з Арктыкі, у канцы тыдня возьмуць перапынак. Атлантычны цыклон пройдзе ў пятніцу па сярэдніх шыротах, а наступны затрымаецца ў Атлантыцы. Гэтым "скарыстаецца" халоднае арктычнае паветра, і ў Беларусі ўстановіцца зімовы характар надвор'я.

Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

У суботу 11 студзеня на большай частцы тэрыторыі снег, мокры снег, месцамі моцны, завіруха, на дарогах галалёдзіца.

На паўднёвым захадзе мокры снег і дождж, слабы галалёд. Вецер парывамі да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ад -5 да +2 градусаў на поўдні.

У нядзелю 12 студзеня таксама снег і мокры снег, тэмпература паветра знізіцца да -3...-9, на поўдні каля 0 градусаў.

Ад панядзелка чакаецца ўзмацненне маразоў.

Уначы -5...-11, падчас праясненняў да -15, удзень -3...-8, месцамі да -10. Кароткачасовы снег, на дарогах галалёдзіца.

ИСТОРИЯ БОЛЕЗНИ

## Накануне Нового года митрополит Филарет ездил на лечение в Германию

***В настоящее время экс-глава Белорусской православной церкви находится на лечении в Республиканском клиническом медицинском центре Управделами президента.***

О болезни митрополита Филарета стало известно 5 января, когда он не появился на литургии в Свято-Духовом кафедральном соборе в Минске. Причем о том, что митрополит Филарет не смог принять участие в воскресной литургии из-за болезни, сообщил новый глава Белорусской православной церкви митрополит Павел. А на следующий день пресс-служба Минской епархии на своем сайте разместила сообщение, что "митрополит Павел посетил находящегося на лечении в больнице Почетного Экзарха Митрополита Филарета". Правда, в какой клинике находится Филарет и чем страдает бывший руководитель Белорусской православной церкви, осталось за скобками.

*— Мы верим и надеемся, что Господь, который управляет миром и каждым из нас, правит и здоровьем Филарета,* — отметил во время воскресной литургии митрополит Павел. — *И все мы прекрасно понимаем, что не можем жить вечно на земле. Каждый из нас все равно должен уйти в мир загробный. Когда это будет — тайна Божья... Будем надеяться, что Господь будет милостив к нам и даст еще ему здравие* (митрополиту Филарету. — **Авт.**). *Что он с нами будет служить и молиться, будет общаться. Мы со своей стороны будем делать все возможное, чтобы владыка был здоров и не чувствовал себя ненужным.*

То, что у митрополита Филарета серьезные проблемы со здоровьем, знали многие православные верующие. Летом прошлого года в Гомеле у митрополита Филарета случился сердечный приступ, в реанимационное отделение он был госпитализирован прямо с литургии, которая проходила в Петро-Павловском кафедральном соборе Гомеля. К счастью, уже на следующий день Патриаршего Экзарха всея Беларуси отправили из гомельской больницы домой. Ухудшение состояния Филарета тогда объяснили аномальной жарой.

Ни для кого не секрет, что состояние здоровья — главная причина того, что 75-летний иерарх сам попросился на покой.

— *Митрополит Филарет давно страдает сахарным диабетом,* — рассказал один из белорусских медиков, который не раз консультировал бывшего главу Белорусской православной церкви. — *Диабет — болезнь, которая затрагивает все основные органы, она опасна своими осложнениями. У Филарета, к сожалению, много проблем, он страдает сердечной недостаточностью, имеет серьезные проблемы со зрением. Последнее время он находится под постоянным контролем врачей, причем не только из епархии, его постоянно консультируют лучшие специалисты Беларуси.*

*В конце прошлого года Филарет был в очень тяжелом состоянии. Когда удалось состояние нормализовать, было принято решение о направлении Филарета на лечение в Германию. Вообще, на лечение в Германию митрополит Филарет ездил часто. Возможно, доверия было больше немецким врачам, чем белорусским. Мне сложно судить. Это решение принималось не здесь...*

Как сейчас чувствует себя митрополит Филарет?

— *Слава Богу, он уже не в реанимации,* — говорит настоятель Всехсвятского прихода Минска протоиерей Федор Повный, который навещал Филарета в больнице. — *При тех нагрузках, которые нес Владыка, не удивительно, что его здоровье пошатнулось... Мы все молимся за него... Думаю, что сейчас митрополит Павел будет хорошим помощником, опорой для митрополита Филарета.*

Как известно, после ухода на пенсию митрополит Филарет стал Почетным Патриаршим Экзархом всея Беларуси. Он также сохранил право участвовать в работе Священного синода и почетное протокольное место за богослужениями и в официальных церемониях.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый Захаранка**
знік 5361 дзень таму



**Віктар Ганчар**
знік 5229 дзён таму



**Анатоль Красоўскі**
знік 5229 дзён таму



**Дзмітрый Завадскі**
знік 4934 дні таму

О ЧЁМ ГОВОРЯТ



*Валерий КАРБАЛЕВИЧ*

# Митрополит в нагрузку

Состоящий в течение 35 лет в должности главы Белорусской православной церкви (БПЦ) достопочтенный митрополит Филарет подал еще в 2010 году прошение об отставке в связи с возрастом. Но вопрос о его преемнике оказался очень непростым.

И хотя, как утверждают знающие люди, полноценно выполнять свои обязанности митрополит Филарет не мог по состоянию здоровья, синод Русской православной церкви (РПЦ) не отпускал его на покой.

Почти четыре года шла закулисная борьба за должность главы БПЦ. Можно предположить, что глава РПЦ патриарх Кирилл стремился прислать в Минск своего наместника из России. А.Лукашенко в свою очередь хотел, чтобы должность руководителя БПЦ занял гражданин Беларуси, которого назовет он сам.



Своей кульминации этот конфликт достиг в июле прошлого года во время празднования 1025-летия Крещения Руси. Тогда А.Лукашенко демонстративно отказался ехать в Киев, где проходили главные торжества, заявил, что церковь начинает заболевать "заразой", раскритиковал руководство РПЦ за отсутствие реформ.

И самое главное, А.Лукашенко тогда пообещал: "И в Беларуси мы над этим подумаем". Его слова надо было понимать так, что мы не будем дожидаться, пока иерархи РПЦ созреют для реформ, а начнем реформировать Белорусскую православную церковь автономно. Это была недвусмысленная заявка на дистанцирование от московского синода, даже намек на угрозу автокефалии, если патриарх Кирилл не будет считаться с позицией президента Беларуси.

Поэтому решение Священного синода РПЦ от 25 декабря 2013 года об отставке митрополита Филарета и назначении митрополитом Минским и Слуцким, Патриаршим Экзархом Беларуси митрополита Рязанского и Михайловского Павла стало громом среди ясного неба. Это было сделано демонстративно унизительно для белорусского руководства и общества.

Мало того, что иностранец, россиянин стал главой православной церкви в Беларуси, а это противоречит белорусскому законодательству. Согласно статье 13 закона "О свободе совести и религиозных организациях", руководителем религиозной организации "может быть только гражданин Республики Беларусь".

Важно обратить внимание на личность нового Патриаршего Экзарха. А это человек, мягко говоря, весьма своеобразный. Он агрессивный антизападник, не приемлет демократию в европейском варианте. Вот некоторые его высказывания, дающие яркое представление о мировоззрении нового экзарха БПЦ. *"То, что происходит и у нас, в России, — все эти собрания, протестующие, у меня это вызывает чувство сожаления. Я думаю, это все делается не без участия западных спецслужб. Пользуясь возможностью, я хотел бы сказать тем, кто делает оранжевые, розовые и другие революции: Россия вам не Грузия и не Украина! Это вам не Египет и не Ливия. В России есть большое количество средств массового уничтожения — и атомное, и бактериологическое оружие. И я должен сказать, что для многих наших людей, в отличие от американцев, жизнь выеденного яйца не стоит. Будут нас донимать, наш народ отчаянным станет, если его загнать в угол, нам ничего не останется, как открыть чернобыльский краник... типа такого. В этом случае пострадают все, и американцы, и европейцы состоятельные".*

Просто шедевр политической мудрости и христианского гуманизма. Дескать, пусть сами погибнем, но и вас, западных супостатов, уничтожим. Это заявления не церковного деятеля, а политика, причем крайне радикального толка, даже одиозного. Можно было бы сказать еще резче, но воздержимся из уважения к сану.

> ***Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белорусов не только их язык, но саму память про самих себя.***
>
> ***Екатерина II***

И синод РПЦ прислал его возглавлять православную церковь Беларуси. Патриарх Кирилл, напутствуя нового главу БПЦ, отметил, что задача нового белорусского митрополита — "в хранении единства исторической Руси". Отныне такая заповедь на белорусских скрижалях. Чтобы белорусы не дай Бог не подумали, что они живут в независимом государстве.

Стесняюсь спросить: а что же молчит гарант Конституции и независимости президент Беларуси? Ведь он так любит рассуждать о незыблемом суверенитете нашего государства, сооружает все новые его символы (площадь Государственного флага, Дворец Независимости). Помните, как в прошлом году во время "калийной войны" наши государственные СМИ настойчиво лепили из него образ последовательного и воинственного защитника интересов Беларуси от посягательств извне?

Почему же теперь А.Лукашенко согласился на явный и недвусмысленный контроль над БПЦ из Москвы? И даже между игрой в хоккей поздравил митрополита Павла со вступлением в новую должность. А ведь церковь во все времена является базовым институтом суверенного государства.

Ответ до банальности прост. Очень знаменательно, что назначение митрополита Павла главой БПЦ состоялось в тот же день, когда президент России В.Путин принял решение выделить Беларуси кредит в размере 2 млрд долларов. Эти два события, безусловно, тесно связаны. Таким образом, как только белорусскому режиму срочно понадобились деньги, так вся фронда и конфликт с РПЦ быстро закончились. Москва вручила подарок с нагрузкой.

Мораль сей грустной истории простая. Страна с разваливающейся, деградирующей экономикой, живущая на зарубежные подачки, не может претендовать на независимость. Сначала появились российские истребители, поставив под угрозу военный суверенитет Беларуси. Назначение митрополита Павла главой БПЦ ставит под сомнение религиозный суверенитет страны. И всего лишь за 2 млрд долларов! А ведь финансовая ситуация в стране такая плохая, что зарубежных кредитов нужно брать с каждым годом все больше. Даже страшно представить, что останется от Беларуси через несколько лет. Площадь Государственного флага да Дворец Независимости.

Митрополит Павел прибыл в Беларусь, приступил к своим новым обязанностям, провел 5 января воскресную литургию. А то, что, согласно белорусскому закону, он не имеет права занимать должность главы БПЦ, похоже, никого не волнует. Ведь закон у нас, что дышло.

Да что закон, на Конституцию никто не обращает внимания. Например, с 1 января начала реализовываться судебная реформа, ликвидируется Высший Хозяйственный суд, что нарушает сразу несколько статей Конституции. Как говорил граф Бенкендорф, "законы пишутся для подданных, а не для государства".

*"СН".*

## ОТ РЕДАКЦИИ

**Не будет преувеличением, если подчеркнем: известный публицист Валерий Карбалевич сказал то, что в эти дни на устах миллионов белорусов.**

**Тот факт, что за спиной многочисленных верующих Беларуси, не считаясь с их мнением, с национальными законами, синод Русской Православной церкви принял явно политизированное решение, направив в качестве Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха Беларуси Митрополита Рязанского и Михайловского Павла, свидетельствует о многом.**

**Интересно, а что думают по этому поводу официальные лица Беларуси, церковные иерархи, общественные и политические деятели? "Народная Воля" обратилась к ним с просьбой прокомментировать произошедшее.**



**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, літаратар і грамадскі дзеяч:**

— Калі не памыляюся, то прызначэнне Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі грамадзяніна Расіі — гэта парушэнне беларускай Канстытуцыі. Мітрапалітам павінен быць беларус. Дарэчы, Лукашэнка жадаў гэтага, але ж бачыце, што атрымалася ў выніку. Як кажуць: хочаш грошай — рабі тое, што трэба. У нейкім сэнсе абраза для беларусаў...



**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, журналіст, палітолаг:**

— Масква не хацела рызыкаваць, прызначаючы кіраўніком Беларускай праваслаўнай царквы беларуса, таму што ён мог бы аказацца не цалкам адданым. Маскоўскі патрыярхат мае прыкры досвед ва Украіне, дзе праваслаўная царква стала на баку еўрапейскай інтэграцыі.



**Пётр САДОЎСКІ, экс-пасол Рэспублікі Беларусь у Германіі, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання:**

— Ну што я магу сказаць? На мой погляд, няма нават неабходнасці нешта каментаваць — ужо ўсё сказана. Мне проста шкада нашых беларускіх прэтэндэнтаў на гэтую пасаду, бо сярод іх ёсць шмат разумных людзей...



**Сергей КАЛЯКИН, лидер Белорусской партии объединенных левых "Справедливый мир":**

— Митрополит сказал главное: он земной человек и грешный. Как и все, допускает ошибки. Не ко всем высказываниям земного человека надо прислушиваться. Тем более надо знать обстоятельства, в которых это было высказано и когда это было высказано... Я бы не делал глубоких выводов из фразы, оброненной человеком по неизвестному нам поводу.

**Уладзімір КРЫШТАЛЬ, прадпрымальнік:**

— Тое, што прызначэнне на пасаду мітрапаліта Паўла знаходзіцца па-за межамі нармальнага, відавочна нават на інтуітыўным узроўні. Складваецца ўражанне, што Расія хоча мець у Беларусі сваіх духоўных лідараў, каб кіраваць намі і з гэтага боку.

Акрамя таго, мне адразу ўзгадваюцца не толькі выказванні іерарха наконт зброі, а яшчэ і шэраг гучных спраў. Для чаго яго прыслалі ў Беларусь — незразумела. З-за такіх думак стаўленне да новага метрапаліта толькі пагаршаецца.



**Федор ПОВНЫЙ, протоиерей, настоятель Всехсвятского прихода г.Минска :**

— Я думаю, что Владыка в своих выступлениях ясно высказал позицию и взгляд на свое послушание. На мой взгляд, это достойная кандидатура. И все высказывания, суждения и мнения, что данное назначение — "рука Москвы", по меньшей мере не соответствуют действительности. Митрополит Павел много лет нес послушание в Америке, Канаде и в Европе, знаком и владеет не только общехристианскими, но и европейскими ценностями не понаслышке, что, как мне кажется, очень важно для Беларуси. Наша страна — многоконфессиональная, я бы сказал даже пограничная страна, где стык православия, католицизма и других конфессий выражен ярче, чем в других регионах постсоветского пространства. Важно, чтобы мы были во взаимодействии, взаимопонимании и во взаимоподдержке, если хотите.

Что касается заявлений, что иностранец стал главой Белорусской православной церкви, то, прежде всего, следует понять, что у нас единое православное пространство. Если говорить о государственном устройстве — мы живем в Союзном государстве. И к этому следует добавить, что у митрополита Павла, естественно, будет белорусское гражданство, к тому же он собирается учить белорусский язык.

## ЗВАНОК У МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ

Атрымаць каментарый міністра юстыцыі **Алега Сліжэўскага** наконт прызначэння новага мітрапаліта, на жаль, не атрымалася. У прыёмнай чыноўніка параілі *"запісацца на асабісты прыём",* але адзначылі, што "*нават міністр не можа даваць прававыя ацэнкі па пытанні, звязаным з прызначэннем мітрапаліта".*

Пашукаць адказ параілі ў епархіі ці Адміністрацыі прэзідэнта...

ПАДЛІЧЫЛІ

## *Не сышлося*

У Беларусі сальда знешняга гандлю таварамі за студзень—лістапад 2013 года склалася адмоўным і дасягнула 4,72 мільярда долараў. А вось за такі ж перыяд папярэдняга года сальда было станоўчым у памеры 347 мільёнаў долараў.

Пра гэта афіцыйна паведаміў Белстат.

Нагадаем, што знешнегандлёвае сальда — гэта рознасць паміж тым, што Беларусь прадавала за межы краіны, і тым, што набывала. Адмоўнае сальда азначае, што мы прадалі тавараў на 4,72 мільярда долараў менш, чым набылі імпарту. Таму і не сыходзяцца канцы з канцамі ў беларускім бюджэце і ў ім хранічна не хапае валюты. Беларускія тавары не карыстаюцца попытам на знешніх рынках, у той жа час без імпарту краіна пражыць не можа. Дзе браць валюту — пытанне паранейшаму адкрытае.

ІНІЦЫЯТЫВА

## *Як пражыць за мінімальны заробак?*

Кіраўнік Баранавіцкай суполкі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці **Рыгор Грык** накіраваў ліст старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзіміру Андрэйчанку наконт ініцыіравання закона аб аплаце працы ў памеры не менш за 3,5 мільёна рублёў з індэксацыяй сумы адпаведна росту цэн, паколькі за цяперашнюю мінімальную суму пражыць немагчыма.

— Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што ў нас сярэдні заробак па краіне 6—7 мільёнаў рублёў. Але ў Баранавічах і Баранавіцкім раёне зусім іншая сітуацыя. Рабочыя, служачыя, сельскія жыхары маюць заробак ад 1,5 да 3 мільёнаў. І такіх працоўных большасць, — тлумачыць Рыгор Грык. — Як пражыць?

Пад лістом падпісалася 180 чалавек. Цікава, што адкажа Андрэйчанка? А яшчэ лепш было б, каб ён сваім прыкладам паказаў, як пражыць на паўтара—два мільёны.

СУД

## *«На лаве падсудных — не ўсе вінаватыя»*

*З такой заявай перад журналістамі выступіў Юрый Кубараў — бацька загінуўшай пасля нескладанай медыцынскай аперацыі гродзенкі Юліі Кубаравай.*

Працэс па гучнай справе цэнтра "Экамедсэрвіс" пачаўся ў судзе Кастрычніцкага раёна сталіцы. Юрый Кубараў патрабуе не толькі пакараць медыкаў — ён падаў дадатковы іск аб маральнай кампенсацыі ў 10 мільярдаў рублёў. Пры гэтым ён заявіў, што сума кампенсацыі для яго не з'яўляецца важнай і ён не хоча, каб нехта спекуляваў на гэтай тэме.

На думку Юрыя Кубарава, за смерць яго дачкі пасля аперацыі рынапластыкі (выпраўленне носа) павінна адказваць уся брыгада, што праводзіла аперацыю. Між тым следства прытрымліваецца іншай думкі, і на лаве падсудных апынуліся толькі анестэзіёлаг і кіраўнік медцэнтра.

Юрый Кубараў, аднак, мяркуе, што працэс "Экамедсэрвіса" павінен стаць паказальным. На ягоную думку, усе вінаватыя медработнікі (і ўрачы, і медсёстры) павінны быць пакараны паводле закона і пазбаўлены права займацца медыцынскай дзейнасцю, каб больш не маглі прынесці шкоду. Аднак самі медыкі не так адназначна ацэньваюць гучную "справу ўрачоў".

ПРАТЭСТ

# Ці адважацца медыкі «хуткай» на забастоўку?

*Больш за пяць тысяч подпісаў, якія былі сабраны пад інтэрнэт-зваротам незадаволеных умовамі працы супрацоўнікаў хуткай медыцынскай дапамогі, прымусілі чыноўнікаў стварыць спецыяльную камісію ў камітэце па ахове здароўя Мінгарвыканкама. Цікава, што на сталічных "хуткіх" працуе значна менш людзей. Але патрабаванні падтрымалі і калегі-медыкі з іншых гарадоў Беларусі, і простыя грамадзяне.*

На момант здачы гэтага нумара ў друк было вядома, што медыкам паабяцалі бліжэйшым часам разгледзець усе ўзнятыя імі пытанні і адказаць на зварот. Прычым самі ініцыятары звароту 8 студзеня, напярэдадні сустрэчы з чыноўнікамі, паведамілі, што збор подпісаў спыняецца. На сустрэчы прысутнічалі кіраўнікі гарадской станцыі хуткай меддапамогі, загадчыкі падстанцый, старшыя ўрачы і фельчары сталічнай "хуткай". З боку чынавенства — першы намеснік міністра аховы здароўя **Дзмітрый Піневіч**. Адзін з ініцыятараў акцыі **Віталь Агеенка** паведаміў, што з боку ўлад прагучаў намер весці дыялог, але ніякіх канкрэтных прапаноў не прагучала.

Што ж прасілі супрацоўнікі "хуткай" у звароце, адрасаваным кіраўніку краіны **Аляксандру Лукашэнку**, старшыні Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў аховы здароўя **Роберту Часнойцю** і міністру аховы здароўя **Васілю Жарко**?

Патрабаванні ўмясціліся ўсяго ў чатыры пункты. Але яны красамоўна дэманструюць становішча, у якім даводзіцца працаваць людзям, што кругласутачна прыходзяць нам на дапамогу. Медыкі просяць:

***1. Прыняць закон "Аб хуткай медыцынскай дапамозе".***

***2. Уключыць у заканадаўства наступныя палажэнні:***

*— забеспячэнне бяспекі работнікаў хуткай медыцынскай дапамогі;*

*— страхаванне ад няшчаснага выпадку падчас працы на сумы, якія дазволяць правесці паўнавартаснае лячэнне, рэабілітацыю, пакрыюць шкоду сваякам у выпадку смерці супрацоўнікаў хуткай медыцынскай дапамогі;*

*— сацыяльныя гарантыі (жыллё, ільготнае пенсіённае забеспячэнне, рэжым працы і адпачынку), аналагічныя тым, якія маюць вайскоўцы і выратавальнікі;*

*— забарона на тое, каб у брыгадзе працаваў усяго адзін медыцынскі работнік (гэта не дазваляе аказаць паўнавартасную дапамогу пацыенту і павялічвае рызыку агрэсіі ў дачыненні да работніка);*

*— вызначэнне паказанняў для выкліку хуткай медыцынскай дапамогі, вызначэнне паняцця "неабгрунтаваны выклік", устанаўленне адказнасці за неабгрунтаваны выклік;*

*— стварэнне ў рэгіёнах навучальных баз для ўдасканалення практычных навыкаў і забеспячэнне ўмоў для рэгулярнай адпрацоўкі практычных навыкаў усімі супрацоўнікамі;*

*— узмацненне юрыдычнай адказнасці пры нападзе на работнікаў хуткай дапамогі "пры выкананні".*

***3. Тэрмінова павысіць аклады медыцынскага персаналу хуткай дапамогі як мінімум у два разы.*** *Мы не забыліся, што ёсць такія паняцці, як сумленне, абавязак, прафесіяналізм. Чаму мы павінны працаваць за зневажальна нізкую зарплату і ў такіх умовах?*

***4. Унесці змены ў Правілы дарожнага руху.*** *Неабходна альбо ўсталяваць безумоўны прыярытэт машын хуткай медыцынскай дапамогі з уключанымі спецсігналамі і ўзмацніць жорсткасць меры пакарання ў дачыненні да асоб, якія перашкаджаюць праезду машын "хуткай дапамогі" пры ўключаных спецсігналах, альбо пазбавіць "хуткую дапамогу" перавагі на дарозе.*

Хто хаця б раз у жыцці сустракаўся з "хуткай", не забудзецца на непрыемны пах формы, стомленыя твары медыкаў, няўтульны салон машыны, у якой на хаду ўсё бразгоча і рыпіць. А колькі разоў даводзілася чуць, што насілкі няма каму несці і трэба паклікаць суседзяў, бо кіроўца машыны адзін не справіцца! Толькі для нас гэта эпізадычныя моманты, а для медыкаў — суровыя будні. Цяпер жа, калі яны выклалі ў інтэрнэт фотаздымкі з падстанцый сталічнай "хуткай", стала зразумела, што нашы самыя дрэнныя ўражанні былі павярхоўнымі. Брудныя туалеты, душ, у якім мыюць анучы для падлогі, месцамі адсутнасць гарачай вады — такая "хуткая дапамога" ў сталіцы еўрапейскай краіны. Медыкі не патрабуюць скараціць заробкі сілавікам, але яны не разумеюць, чаму бюджэтныя грошы размяркоўваюцца такім чынам. Атрымаўшы чарговы адказ аб тым, што ў бюджэце грошай для павышэння іхніх заробкаў няма, спыталі: "А для сілавікоў грошы ў бюджэце знайшлі?" Пры гэтым медыкі даволі часта скардзяцца на, мякка кажучы, дзіўныя паводзіны людзей у пагонах. Святлана Вайткевіч працуе 12 гадоў. Жанчына распавяла: *"Не адна я вам магу сказаць пра тое, што ў міліцыі мы не заўсёды знаходзім абарону. Выклікаюць да нейкага п'янага хулігана і замест таго, каб яго неяк стрымаць, проста адыходзяць у бок са словамі: "Не будзем вам перашкаджаць". У мяне быў выпадак, калі я зрабіла заўвагу аднаму лейтэнанту, а ён усміхнуўся і адказаў: "Ну я ж не прашу вас рабіць за мяне маю працу".*

Самі медыкі кажуць, што нізкія заробкі і зменны графік не самае горшае ў працы. Іх вымотваюць безгрунтоўныя выклікі, калі, напрыклад, бабулька вырашыла зрабіць кардыяграму, каб не хадзіць у паліклініку, альбо, калі за сталом нехта перабраў і больш не падтрымлівае кампанію. Пры гэтым медыкі пра абразы ў свой адрас нават не ўзгадваюць. Адзін малады доктар расказаў мне, што на "хуткай" не рэдкасць, калі муж і жонка працуюць у розныя змены, каб нехта адзін мог быць з дзіцём. Кажуць, што гэта вельмі зручна, але часам адчуваюць сябе як самотныя, бо, з аднаго боку, сям'я быццам бы ёсць, а з другога...

Самыя вялікія абурэнні можна пачуць наконт таго, як налічваюць заробкі. Згодна са статыстыкай, заробкі медыкаў "хуткай" складаюць больш за 7 мільёнаў, іншымі словамі — нават больш за заробкі сярэдняга персаналу па сферы аховы здароўя. Але медыкі кажуць, што ім незразумела, чаму статыстыку па заробках прыводзяць не на стаўку, а на паўтары? Ці не лічыцца цяпер нормай працаваць на 1,5 стаўкі? Як бы там ні было, але тое, што менш як за тыдзень пад петыцыяй падпісалася больш за 5 тысяч чалавек, сведчыць, што забалбатаць праблему не атрымаецца. Чыноўнікам давядзецца вырашаць сітуацыю як мага хутчэй.

**Любоў ЛУНЁВА.**

# Віншуем Паўла і Вольгу Севярынцаў!

Сярод прадстаўнікоў моцнай паловы дэмакратычнай супольнасці на аднаго халасцяка стала менш. **Павел і Вольга Севярынцы** парадавалі сваіх бацькоў і сяброў стварэннем сям'і. Вянчацца маладыя будуць у каталіцкім касцёле, дакладней у Катэдры Св.Панны Марыі, што на плошчы Свабоды ў Мінску, 11 студзеня. Вольга каталічка, а Павел — праваслаўны. Вольга кажа, што для яе пытанне, у якім менавіта храме адбудзецца вянчанне, не было прынцыповым. *"Размова ішла пра тое, дзе мы потым будзем хрысціць дзяцей. Вось і вырашылі, каб гэта быў храм, дзе размаўляюць па-беларуску, а не таму, што я выхоўвалася ў каталіцкай сям'і і з дзяцінства мяне бацькі вадзілі ў касцёл",* — смяецца Вольга.



У сваю чаргу Павел Севярынец гаворыць: *"Бог адзіны, а міжканфесійныя разборкі да неба не дасягаюць. У нашых сэрцах і ў нашых сем'ях міжканфесійнага раздзялення не існуе. Мы разумеем, што на Зямлі яно ёсць, але мы яднаемся ў Хрысце. Самае галоўнае для нас — гэта вянчанне. Бо шлюб для нас наступае не пасля запісу ў сённяшнім дзяржаўным загсе, не пасля банкету. Для нас гэта вялікая радасць, і мы запрашаем нашых сяброў раздзяліць гэтую радасць разам з намі. Што такое сёння шлюб, сям'я? Гэта "Жыве Беларусь!" у натуральным выглядзе".*

Нагадаем, што гісторыя кахання новых сужэнцаў выспявала доўга. Яны пазнаёміліся яшчэ пяць гадоў таму. Па-рознаму развіваліся падзеі, давялося прайсці праз пэўныя выпрабаванні, але, як кажуць, ад лёсу нікуды не схаваешся. Сябры Паўла заўважылі, што Вольга часцей за іншых наведвала палітвязня на так званай "хіміі", і ўсе здагадваліся, што за гэтым стаіць нешта іншае, чым звычайны грамадзянскі абавязак. Цяпер усе ўсцешаны шчаслівай падзеяй у жыцці гэтых прыгожых людзей.

Мы таксама віншуем маладых!

**"Народная Воля".**

# «Мова нанова»

*У нядзелю, 13 студзеня, у сталічнай галерэі "Ў" адбудуцца першыя заняткі курсаў беларускай мовы "Мова нанова".*

## Працяг праекта

Курсы "Мова нанова" стануць лагічным працягам праекта журналісткі **Кацярыны Кібальчыч** "Мова ці кава". У дзвюх сталіцах — Маскве і Мінску — на працягу года цікаўныя людзі збіраліся, каб за кубачкам кавы ўдасканаліць сваё валоданне беларускай мовай.

"Мова нанова" — выключна беларуская ініцыятыва. Усе цяжкасці, звязаныя з арганізацыяй курсаў, узяў на сябе **Глеб Лабадзенка**. Таксама разам з паплечніцай філолагам **Алесяй Літвіноўскай** ён будзе весці курсы. Свае выкладчыцкія здольнасці тандэм ужо ўдасканаліў падчас правядзення "Мовы ці кавы".

## Заманьваюць "плюшкамі"

Сустракацца на курсах вырашылі раз на тыдзень — па панядзелках. Чакаюцца сюрпрызы. Напрыклад, вядома, што ў праграме "Мовы" запланавана шмат цікавых гасцей.

*"Ужо на бліжэйшыя заняткі ёсць папярэдняя дамоўленасць з Уладзімірам Арловым, Лявонам Вольскім, Генадзем Бураўкіным, Валянцінам Акудовічам, іншымі вядомымі людзьмі,* — дзеліцца Глеб Лабадзенка. — *Плануем актыўна запрашаць музыкаў. Яшчэ адна фішка: студэнты змогуць пагутарыць з беларускамоўнымі замежнікамі — амерыканцамі, немцамі, шведамі, палякамі, іспанцамі. Як гэта ўдасца зрабіць — сюрпрыз! Выступленні ўсіх гасцей будуць мець агульны момант: як вы прыйшлі да мовы, што мова значыць для вас?"*

Спадар Лабадзенка адзначае, што без падтрымкі партнёраў "Мова нанова" наўрад ці пабачыла свет. Асобныя словы ўдзячнасці — галерэі "Ў", якая бясплатна прадастаўляе памяшканне, ды грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі". "Будзьма" абяцае прадаставіць падарункі для самых здатных студэнтаў, а ўручаць іх будуць па выніках кожнага занятку.

## Дзякуй дабрадзеям

Моўныя курсы "Мова нанова" — бясплатныя, наведваць іх можа кожны жадаючы.

*— Дзякуй нашым дабрадзеям,* — адзначае Глеб. — *Бізнесмен* ***Павел Бераговіч****, які стварае ў маёнтку Падароск Музей беларускай шляхты, падтрымаў нас, дапамог стварыць сайт, а таксама прэзентаваў нам агромністы імбрык з кранікам і запасы кавы ды гарбаты — таму кожны занятак студэнты змогуць падсілкавацца гарачымі напоямі... Цешуся, што вакол нас добрыя людзі: праграміст* ***Юрась Адамовіч*** *узяў на сябе тэхнічную частку сайта, дызайнер* ***Настасся Арайс*** *распрацавала лагатып і стыль курсаў. Дадаць да гэтага наш уласны энтузіязм — вось і атрымаліся курсы!"*

Дарэчы, сайт "Мовы" дае магчымасць вучыцца, нават не прыязджаючы на заняткі ў Мінск. Усе вынікі супрацоўніцтва выкладчыкаў будуць змешчаны ў адкрытым доступе. Гэта добрая крыніца інфармацыі для людзей, якія хацелі б арганізаваць падобныя курсы ў сваім горадзе.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
10 СТУДЗЕНЯ 2014 г.

СІТУАЦЫЯ

# Таксісты сталіцы гатовы распачаць забастоўку

*Таксісты гатовы да правядзення мітынгу. Яны збіраюць подпісы пад заяўкай у Мінгарвыканкам па дазвол сабрацца ў парку Дружбы народаў каля плошчы Бангалор. У прыватных размовах кіроўцы запэўнілі, што ў выпадку адмовы ў правядзенні акцыі яны могуць зладзіць забастоўку.*

*Мінчане прызвычаіліся да карціны, калі побач з пустымі аўтамабілямі таксі стаяць гуртом кіроўцы і вядуць размовы, каб нечым заняцца ў чаканні кліентаў. Здавалася б, цалкам ідэалістычная карціна, калі не задумвацца, што людзі марнуюць свой час. Што ж прымусіла таксістаў пайсці на такія крокі?*

...Каля гандлёвага цэнтра "Замак" сабралася некалькі кіроўцаў таксі. Машын больш за дзясятак, а кліентаў — ніводнага. Сярод прысутных адзін з арганізатараў акцыі **Аляксей Платонаў**. Ён расказвае, што таксісты вылучаюць тры асноўныя патрабаванні: **павысіць тарыфы, увесці квоты на колькасць суб'ектаў і ўдасканаліць кадравую палітыку**:

*— Мінімальная паездка на таксі павінна каштаваць не менш за 50 тысяч рублёў. Тыя тарыфы, якія цяпер існуюць, — 25 ці 30 тысяч, — гэта праца дзеля самой працы. Таксіст сёння за свой заробак можа толькі харчавацца і плаціць камунальныя паслугі. Набыць сабе элементарнае — больш-менш прыстойную вопратку ці нейкую тэхніку — мы не ў стане. А трэба ж яшчэ і сям'ю карміць. Што да квот, дык вы паглядзіце, колькі іншагародніх працуе сёння на сталічных вуліцах. Можна сказаць, што іх недзе 40%. Яны прыязджаюць у сталіцу ў пошуках заробку, а на фоне рэзкага змяншэння колькасці пасажыраў з-за цяжкай эканамічнай сітуацыі і нам не даюць зарабляць, і самі ледзь канцы з канцамі зводзяць. Што да кадравай палітыкі, то тут трэба наладзіць кантроль. І гэта не проста пажаданне. Размова ідзе пра бяспеку пасажыраў на дарозе. Учора хлопчык на вёсцы атрымаў правы, а сёння ён прыехаў у сталіцу, узяў машыну ў арэнду і думае, што можа працаваць таксістам. Паглядзіце статыстыку ДТЗ з таксі, і вам стане зразумела, што далей так быць не можа. У нас жа ўжо ноччу на пустым перакрыжаванні ўмудраюцца біцца машыны таксі.*

Адразу ўзгадала жоўтыя "Волги" з шашачкамі савецкіх часоў. Вялізныя чэргі на прыпынках таксі, аб'явы, што ветэраны ВОВ, інваліды і пасажыры з малымі дзецьмі абслугоўваюцца без чаргі. Не абыходзілася без эксцэсаў, калі нахабнікі спрабавалі перахапіць пад'ехаўшую машыну. Людзі памятаюць, наколькі цяжка было выклікаць таксі ў рэстаран, а ўжо пра святочныя дні, калі сем'ямі вярталіся з гасцей, і казаць няма чаго. Уладкавацца на працу ў таксі можна было толькі па вялікім блаце. Таксісты хочуць, каб такое паўтарылася?.. Але гэта з аднаго боку. З іншага — працаваць у таксі было прэстыжна, але не так і проста. У таксапарках былі атэстацыі, да якіх рыхтаваліся, як да экзамена. Сталічны таксіст павінен быў з заплюшчанымі вачыма распавесці самы кароткі шлях да названага адраса і нават сказаць, ці ёсць у тым доме карпусы. А цяпер?

**Павел Рыжанкоў, таксіст**:

*— Ужо нікога не здзіўляе, калі таксіст запытвае, дзе знаходзіцца, напрыклад, філармонія. Ніхто не здзіўляецца, калі таксіст просіць пасажыра паказаць дарогу. Далёка ж не ўсе кіроўцы маюць навігатар. Чаму так атрымліваецца? Таму што кіраўніцтва таксапарка не хвалюе, ці ведае кіроўца горад. Нікога не хвалюе, наколькі дысцыплінавана ён паводзіць сябе на дарозе, наколькі ён увогуле можа кантактаваць з пасажырамі. Колькі народу скардзіцца на звычайнае хамства з боку гора-кіроўцаў ці адсутнасць чысціні ў салоне! Можна ехаць у тэатр у вячэрнім касцюме, а выйсці з машыны, як з бруднага трактара. Сёння сталічнае таксі — гэта рулетка: пашанцуе — і добра. Можна ж сесці ў машыну да чалавека, які толькі ўчора прыехаў з нейкага раённага цэнтра. А дарожны рух там і ў двухмільённым горадзе адрозніваецца. Я лічу, што ўсім гэтым трэба заняцца тэрмінова.*

**Аляксандр Новікаў** працуе ў таксі 8 гадоў. Ён лічыць, што трэба абгрунтавана падысці да вызначэння тарыфаў.

*— Правільна было б, калі б сыходзілі з нормы "адзін кіламетр — адзін літр бензіну" (няхай самага таннага). Трэба распрацаваць нейкі адзіны падыход. Вось мы стаім — таксісты са службаў 135, 152, 155, 7788 і г.д. Але ва ўсіх пытанне набалела, і яго трэба вырашаць тэрмінова. Так, нехта скажа, што 50 тысяч плаціць за мінімальную паездку — гэта дорага. А нічога, што паліва летась даражэла пяць разоў? А нічога, што запчасткі каштуюць дорага? А могуць сёння таксісты набываць новыя машыны? Нават калі браць у лізінг якую больш-менш танную, то гэта будзе каля 17 тысяч долараў. Але за колькі гадоў можна "адбіць" гэтыя грошы? Дык што нам рабіць? Нас павінны пачуць. Зразумейце, тыя часы, калі чалавек выклікаў на працу таксі, каб даехаць з камфортам да дома, скончыліся. Цяпер выклікаюць, каб даехаць да палiклінікі ці на вакзал, калі гэта позні час, ці нехта ў гасцях засядзеўся. Крызіс — і гэтым усё сказана. Прычым шмат жа і ўласных аўтамабіляў стала ў людзей. Я лічу, што тыя пасажыры, якія сёння едуць па тарыфе 30 тысяч, будуць і заўтра ездзіць, калі ён стане 50 тысяч.*

Таксісты спадзяюцца, што заяўку ў Мінгарвыканкам пададуць бліжэйшым часам і дазволу ім чакаць давядзецца нядоўга. Пакуль жа яны маюць магчымасць абмяркоўваць сітуацыю вузкімі коламі, тым больш што і час дазваляе гэта рабіць. Кліентаў пасля святаў сапраўды няшмат. Ды, кажуць, і на святы шмат не было...

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПУЛЬС

## Апазіцыя плануе праймерыз у Бабруйску

Правесці падчас кампаніі мясцовых выбараў праймерыз — вызначэнне лідара прыхільнікаў перамен шляхам галасавання жадаючых прыняць у гэтым удзел — хоча шэраг дэмакратычных партый і арганізацый. Праймерыз мяркуюць правесці ў Бабруйску.

Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Леў Марголін патлумачыў выбар гэтага рэгіёна так: "Тут ёсць дастаткова дэмакратычны актыў, неабходная інфраструктура, гэта дастаткова вялікі горад, які знаходзіцца непадалёк ад сталіцы".

Лідар партыі "Справядлівы свет" Сяргей Калякін заявіў, што ён прыхільнік менавіта праймерыз, і сказаў, што ў вызначэнні лідара апазіцыі падчас Кангрэса дэмакратычных сіл супольна ўдзельнічалі менш за дзесяць тысяч чалавек. Праймерыз дае магчымасць ахапіць значна большую частку насельніцтва, а таксама выйсці за кола дэмакратычных сіл, пашырыць спіс удзельнікаў адбору.

Калі эксперымент будзе паспяховым, яго абяцаюць паўтарыць і ў іншых рэгіёнах Беларусі.

## «Гарачыя» святы: на пажарах загінулі 56 чалавек

За два тыдні калядных і навагодніх святаў у Беларусі адбылося 266 пажараў, у выніку якіх загінулі 56 чалавек, у тым ліку двое дзяцей.

Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення аварыйна-выратавальных службаў і ліквідацыі надзвычайных сітуацый МНС **Анатоль Балябін.** Ён адзначыў, што, па статыстыцы, у такія святочныя дні колькасць пажараў у краіне ўзрастае на 20% у параўнанні са звычайным паказчыкам, колькасць загінуўшых — на 60%. Гэтым разам пажары з найбольш цяжкімі наступствамі здарыліся на працягу сутак з 6.00 31 снежня па 6.00 1 студзеня, а таксама ў першы дзень новага года.

## ДАІ выпісала штраф гродзенскім камунальнікам

Нагодай сталі дзеянні камунальнікаў падчас адзінага ў гэтым сезоне снегападу.

На пачатку снежня камунальнікі выкідвалі снег на праезную частку. Цяпер стала вядома, што за такія дзеянні ім давядзецца адказаць.

У ДАІ кажуць, што, па Правілах добраўпарадкавання і ўтрымання населеных пунктаў, нельга складваць снег каля прыпынкаў грамадскага транспарту, пешаходных пераходаў, скрыжаванняў. Нельга таксама перамяшчаць снег на праезную частку вуліцы, бо гэта небяспечна і стварае перашкоды для руху транспарту. Рабіць гэта можна, толькі калі на вуліцы плюсавая тэмпература.

За парушэнне Правілаў добраўпарадкавання прадугледжаны штраф — ад 520 тысяч да 2,6 млн рублёў (ад 4 да 20 базавых велічыняў).

## Віншуем!

Цыкл анімацыйных фільмаў "Казкі старога піяніна" сумеснай вытворчасці "Беларусьфільма" і студыі М.І.Р. (Расія) удастоены ганаровай прэміі ўрада Расіі ў галіне культуры за 2013 год.

Адукацыйны анімацыйны праект расказвае аб жыццёвым шляху музыкантаў, іх імкненнях і дасягненнях. Лёсы кампазітараў прадстаўлены ў розных анімацыйных тэхніках і мастацкіх стылістыках.

Студыя анімацыйных фільмаў Нацыянальнай кінастудыі працавала над карцінамі, прысвечанымі Роберту Шуману, Іагану Баху (рэж. Алена Пяткевіч), Сяргею Пракоф'еву (рэж. Юлія Цітова), Людвігу ван Бетховену (рэж. Уладзімір Пяткевіч). У працэсе вытворчасці знаходзіцца серыя, прысвечаная Фрыдэрыку Шапэну (рэж. Ірына Кадзюкова).

АСОБА

## Каталіцкі касцёл адзначыць 100-годдзе кардынала Казіміра Свёнтэка

Каталіцкі касцёл у Беларусі сёлета шырока адзначыць 100-годдзе першага беларускага кардынала Казіміра Свёнтэка (1914—2011). Урачыстасці з гэтай нагоды пройдуць не толькі ў дзень яго нараджэння, 21 кастрычніка, але таксама ў іншыя дні і ў розных парафіях.

Пра гэта паведаміў Пінскі біскуп **Антоні Дзям'янка** падчас сустрэчы з моладдзю.

Лёс кардынала Казіміра Свёнтэка непарыўна звязаны са служэннем Богу. За сваю веру і пазіцыю ён прайшоў праз сталінскія лагеры, бясконцыя арышты і здзекі. Кардынал Казімір Свёнтэк памёр у 2011 годзе і пахаваны ў крыпце Пінскай Катэдры.



*Анатоль ВЯРЦІНСКІ*

# «Тая вера, тая вера ў нас жыве!»

Напярэдадні Новага года, а дакладней — 29 снежня, у нядзелю, **Ніл ГІЛЕВІЧ** нарэшце пабачыў на яве, на ўласныя вочы, апошні том распачатага дзесяць гадоў таму выдання 23-томнага Збору твораў. Пабачыў, патрымаў некалькі хвілін у руках і з пачуццём, пра якое няцяжка здагадацца, паставіў на сваё, адпаведна нумарацыі, месца, побач з падобнымі, цёмна-сіняга колеру, томікамі. Кажу як сведка, сведчу, бо якраз у гэты дзень наведаў Ніла Сымонавіча — каб пабачыцца, пагаманіць на мяжы двух гадоў, згадаць, пэўна ж, некаторыя вынікі года адыходзячага. І вось тут акурат падаспеў — накшталт каляднага цуду — адзін з гэтых, прытым пазітыўнага кшталту, вынікаў: з'явіўся запаветны том. Такім чынам, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя абставіны і цяжкасці, смела задуманы і руплiва, грунтоўна падрыхтаваны маштабны выдавецкі праект спраўдзіўся. Збор твораў у 23 тамах стаў відавочным фактам. І, трэба думаць, фактам не толькі творчай біяграфіі самога аўтара, але і найноўшай гісторыі ўсёй сучаснай беларускай літаратуры, фактам грамадска-культурнага жыцця краіны.

Паэт і празаік, драматург і перакладчык, літаратуразнаўца і фалькларыст, грамадскі дзеяч і дзяржаўны муж... Усе гэтыя іпастасі звязаны так альбо інакш адна з другой, адна другую дапаўняюць, і кожная — у сваёй форме і ў сваім жанры — выяўляецца ў Зборы твораў. Ды пры гэтым — што характэрна — аўтар кожным разам застаецца самім сабой, верным свайму выбару, свайму ўсведамленню неабходнай значнасці таго, што робіць. Вось прыклад. Адным з паэтычных твораў, якімі адкрываецца 1-ы том, з'яўляецца напісаны ў 1947 годзе верш "Першая клятва (родная мова)". А 23-ы том Ніл Гілевіч заканчвае словамі: "Аўтару, калі ён у сакавіку 1947-га даў сабе і Радзіме гэтую клятву, было пятнаццаць з палавінай. Быў якраз у гэткім жа падлеткавым узросце — самым парыўным да волі, да святла, да праўды, самым акрыленым верай у будучыню". Такое вось атрымалася "абрамленне". Зусім не выпадковае.

Так, справа не толькі ў вонкавых параметрах выдання (колькасць тамоў, шматпланавасць, жанравая разнастайнасць), а ў адпаведным змесце твораў, у іх эмацыйнай танальнасці і сэнсавыяўленчай сутнасці. Вызначу ў якасці ілюстрацыі адну ці не скразную дамінанту, ці не скразны лейтматыў. У свой час Віктар Каваленка скажа пра паэтычную творчасць Ніла Гілевіча: "Паэзія глыбокай веры". Сам Ніл Гілевіч адну са сваіх кніг, зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў, большасць з якіх увайшлі ў 16-ы том, адназначна назаве: "У гэта веру". А верш, прысвечаны памяці Максіма Гарэцкага (ён змешчаны ў 1-м томе), заканчваецца сцвярджэннем:

*Але вера, што калісьці вас натхняла*
*У вялікаснай сяўбе і на жніве, —*
*Тая вера не памерла, не сканала:*
*Тая вера, тая вера ў нас жыве!*

Вера ў што, у каго? Чым прасякнута?

Адказ выразна гучыць у шматлікіх, вершаваных і празаічных, радках Збору твораў. Гэта — "непахісная вера, што яму, вялікаму і магутнаму, роднаму слову, жыць вечна"; вера ў роднае паэтычнае, мастацкае слова, "слова ў вуснах і кнізе, на медзі скрыжаляў"; вера ў тое, што "мы, беларусы, будзем як народ, як нацыя жыць вечна, таму што ў нас ёсць Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі"; вера ў "нашу чалавечую і нацыянальную годнасць", у "беларускі наш дом"; і, урэшце, паэтычна-песенная вера ў тое, што "і ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!"...

На тытульным лісце заключнага, 23-га, тома чытаем: "...Абрыс пройдзенага шляху ў святле адной мары". Тут можна слушна ўдакладніць: "...у святле непахіснай веры". 23 тамы як 23 верставыя знакі на шляху да запаветнай мэты.

КТО ЕСТЬ КТО

# Чергинец на планете Лукшейм

*(Факты и комментарии)*



## 1

Минский Дом литератора. На втором этаже — кабинет Николая Чергинца, председателя Союза писателей Беларуси. Здесь когда-то работал Максим Танк, народный поэт Беларуси. Памятной таблички нет. При Танке кабинет оставался цельным, сейчас разделен, еще при Алесе Пашкевиче появилась так называемая релаксационная боковушка.

На первом этаже разместился ресторан "Старый Тифлис". По периметру выложили грузинскую черепицу. Вывезли библиотеку. Возвели фонтан. Содрали с фронтона изображение Пегаса... Если бы не надпись на стене, то ничего не напоминало бы, что здание строилось как Дом литератора, что в нем когда-то творили и выступали такие классики белорусской литературы, как Максим Танк, Василь Быков, Нил Гилевич, Янка Брыль, Владимир Короткевич, Рыгор Бородулин, Василь Зуенок и многие другие.

## 2

**Из обращения писателя Владимира Федосеенко к Александру Лукашенко:**

"Уважаемый Александр Григорьевич! Я ветеран и инвалид Великой Отечественной войны. Награжден орденами Отечественной войны первой степени, Красной Звезды, медалями "Партизану Отечественной войны" первой и второй степеней, Франциска Скорины. Автор четырех романов, посвященных борьбе белорусской молодежи против немецко-фашистских захватчиков и проблемам экологии. Несколько лет я пытаюсь переиздать хотя бы часть своих произведений, имеющих воспитательное значение для подрастающего поколения. Обратился к председателю Союза писателей Беларуси Н.Чергинцу. Вместо того чтобы поддержать меня, он заявил, что мои романы никому не нужны... Однажды утром Чергинец звонит мне домой и спрашивает, как я в 17 лет умудрился получить высокие боевые награды. Видно, делать нечего, коль затеял проверку боевых наград ветеранов войны. Пусть не волнуется господин Чергинец, наградные документы у меня в полном порядке..."

**Из ответа президиума Союза писателей Беларуси Владимиру Федосеенко:**

"Ваши огорчения по поводу переиздания Ваших романов в государственных издательствах нам понятны, от этого страдают все писатели. К сожалению, на этом этапе сложности издания книг на белорусском языке не позволяют одним махом решить не только Вашу проблему. В подобной ситуации, и еще более сложной, находятся десятки талантливых писателей, чьи книги ждут очереди по пять-семь лет в издательствах... План издания книг государственными издательствами, приуроченный к 70-летию Великой Победы, о чем Вы упоминаете, пока вообще отсутствует".

**Сухая графика отписки, а вот картина маслом.**

Книги, изданные за 2005—2010 гг.:

М.Позняков, член президиума, руководитель Минской городской организации СПБ, — 10 наименований, из них семь в государственных издательствах;

А.Бадак, директор РИУ "Литература и искусство", член правления СПБ, — четыре наименования, три — в госиздательствах;

В.Липский, член президиума, — 18 наименований, 13 — в госиздательствах.

Список особо удачливых далеко не полный, его можно значительно расширить. Трудно было уважить ветерана? Даже стыдно об этом писать.

## 3

Госиздательство "Мастацкая літаратура" возглавляет член правления СПБ, бывший прокурорский работник (вы знакомы с его произведениями?) В.Мачульский. Недавно он летал на Кубу. Вместе с Н.Чергинцом и сотоварищами. Жилье и питание оплатила кубинская сторона, а дорогу? Неужели Министерство информации?

На съезд писателей России Чергинец поехал вместе с автором детективов С.Трахимёнком и экономистом В.Дадалко, экстренно принятым в Союз писателей Беларуси.

В.Дадалко тут же попытался устроить знакомого литератора на работу в журнал "Белая вежа", выходящий от случая к случаю (российская сторона пообещала открыть регулярное финансирование), но Н.Чайка, заместитель главного редактора, воспротивилась навязываемой кандидатуре. Возник конфликт. Чайку "ушли". Нина Тимофеевна из семьи военных. Потеряла сына в Афганистане, ревностная сторонница президента, многие помнят ее передачи на радио, занимается переводами. Спрашиваю: почему сдалась? "Боюсь за семью", — в ответ. Окольными путями удается выяснить, видимо, главную причину ее увольнения. На должность директора Литфонда ее назначили пару месяцев назад. После аудита и изучения бумаг, оставленных предшественником, у Чайки возникли вопросы... В этот момент и постарались от нее избавиться.

## 4

2003 год. Первый заместитель председателя Минского облисполкома Л.Крупец сообщает Н.Чергинцу, председателю Белорусского литературного фонда: *"По Вашей просьбе проведена ревизия финансово-хозяйственной деятельности санатория-профилактория писателей "Ислочь"... По результатам ревизии контрольно-ревизионным управлением Министерства финансов РБ по Минской области направлено письмо в Управление по борьбе с экономической преступностью для проведения расследования, возмещения причиненного ущерба и привлечения виновных к ответственности".*

Почему Н.Чергинец не довел начатое до конца? Игнорировать коллег по перу, требующих прекратить безобразия, творимые в "Ислочи", он уже не мог и обратился по инстанциям. Что на выходе? Прекрасные помещения, инфраструктура пришли в полное запустение, затем вместе с массивом заповедного леса спущены, образно говоря, с молотка. И концы в воду.

## 5

Альбом "Вместе", посвященный белорусско-казахскому сотрудничеству. Составители — Н.Чергинец и Г.Киргизбаева. Звоним в казахское посольство: как оцениваете? Молчание, затем признание: посольство попросило отпечатать по-новому хотя бы 100 экземпляров, чтобы на родину отправить. На выпуск альбома потрачены, по некоторым сведениям, десятки миллионов рублей. Альбом отпечатан в типографии ЧУП "Джи энд Ди", а не в государственной типографии. На что намекаю? На то, о чем вы подумали.

## 6

Н.Чергинец везде и всюду.

Доходит до патологии. Как можно было помещать в витрине книжного магазина "Светоч" (!) по проспекту Победителей в Минске (!) портреты Якуба Коласа, Янки Купалы и Николая Чергинца в одном рекламно-смысловом ряду? Не один месяц красовался этот стенд, не может быть, чтобы наш "герой" не видел его...

## 7

Из романа Чергинца "Тайны овального кабинета":

"— Посмотри, какой у него огромный член. Может, дело в этом?

— Да пошел ты! Мне и твоего, кстати, тоже не маленького, вполне хватает...".

Чергинец — критикам: "Ну и что? Это просто спекуляция! Почему вы не публикуете такие же отрывки из Мопассана, Толстого или Тургенева? Это же литература! Это жизнь! Литература вещь такая: хочешь — читай, хочешь — нет".

Н.Чергинец: "Некоторые спрашивают: где ваши великие писатели? Великие писатели в Беларуси появились тогда, когда к ним было уважение, достойные гонорары. Сейчас этого не хватает...".

## 8

2009 год. Генпрокуратура Российской Федерации за дискредитацию власти и использование коррупционных схем ликвидировала так называемую Академию проблем безопасности, обороны и правопорядка. В ней было учреждено 73 (!) вида наград — от ордена Петра Великого трех степеней до премии Ю.В.Андропова с медалью. Вице-президентом академии-шарашки являлся Н.Чергинец.

## 9

В отстранении Александра Войтовича от должности председателя Верхней палаты Национального собрания принимал участие и Н.Чергинец. В справке "О совершенствовании стиля и методов работы президиума Совета Республики Национального собрания", подготовленной "группой товарищей", сказано: *"Высказывания А.П.Войтовича в ходе официальных встреч с иностранными делегациями и ряд публикаций в прессе подтверждают вывод о том, что он публично допускает легковесные и ошибочные заявления и комментарии, которые противоречат официальной линии высшего белорусского руководства... создают серьезный негативный резонанс в белорусском обществе..."*

В качестве доказательства вины Войтовича приводится фрагмент его выступления 4 февраля 2002 года перед зарубежными дипломатами во главе с Утой Цапф: *"Уважаемые коллеги! Меня, как и вас, беспокоит ситуация с Консультативно-наблюдательной группой. Я обеспокоен тем, что в Беларуси нет координации в вопросах, касающихся отношения к Консультативно-наблюдательной группе. И различные ветви власти действуют независимо друг от друга... Мы, конечно, понимаем, что у нас есть проблемы с гражданским обществом. У нас есть проблемы с развитием демократии в стране, с либерализацией экономики..."*

Резюмирующая концовка справки: *"Председатель Постоянной комиссии Совета Республики по международным делам и национальной безопасности Н.И.Чергинец несколько раз в личных беседах и в ходе заседания Президиума обращал внимание членов Президиума на недопустимость при проведении международных переговоров и в высказываниях в СМИ расхождений с единой позицией белорусского руководства".*

Академик Александр Павлович Войтович, умеющий мыслить масштабами страны, человек искренний, не способный на интриги и низкопоклонство, хорошо понимающий значение родного языка и национальной культуры, временщикам пришелся не по нраву.

## 10

Недавно Н.Чергинец получил премию в области культуры и искусства за "выдающийся вклад в развитие литературного наследия Содружества Независимых Государств". Почетный диплом подписали П.Бюльбюль-оглы, председатель рабочих групп Совета по премиям, и секретарь Совета М.Швыдкой, о котором народный артист России Юрий Назаров сказал: *"Темы национального поражения и унижения России — любимые темы господина Швыдкого. "Русский фашизм" — это выдумка Швыдкого и ему подобных. В стране, где во время войны погибли десятки миллионов людей, говорить, что русский фашизм страшнее немецкого, глубоко безнравственно и подло".*

## 11

На одной из пресс-конференций Чергинец двинул инициативу:

*"Мы рекомендовали ряду организаций — и военным, и гражданским, и коммерческим компаниям, и государственным организациям — постепенно вводить курсы белорусского языка... И пойти даже на то, чтобы на час раньше разрешить заканчивать работу тем, кто ходит на курсы белорусского языка..."* Без комментариев. Хотя один вопрос напрашивается: "С этого ли нужно начинать возрождение белорусского языка?"

## 12

В 1995 году вышел детектив Н.Чергинца "Илоты безумия". Один из персонажей внушает своему визави: *"Слушайте, Николай Платонович, о главном: внеземных цивилизаций много... Но есть планета Лукшейм, где обитают существа, которые являются исчадием ада. Все они состоят из атомов Зла, Ненависти и Мракобесия..."*

Года два назад по европейским изданиям гуляла карикатура, сделанная с помощью фотошопа: канцлер Германии Меркель и президент Франции Саркози в одной совмещенной ипостаси, а внизу подпись: Меркази. Выдумщики у Чергинца идею слямзили? "Лукшейм", как ни крути, Лукашенко с Шейманом получаются. Герой романа успокаивает: "Ракеты России, они — наиболее подходящее оружие против корабля "Лукшейма". Что верно, то верно, ракеты класса "Газ" и "Нефть" бьют без промаха. К ним можно и ракету последнего поколения — "Уралкалий" — приплюсовать.

## 13

Н.Чергинец позвонил однажды в "Комсомольскую правду" и попросил о встрече Тема: гибель П.М.Машерова. Чергинец утверждает, что слышал его последние слова: "Не трогайте водителя... Он не виноват". Мнение Николая Андреевича Манака, члена-корреспондента Национальной академии наук, бывшего личного врача Машерова: "Это исключено... Петр Миронович погиб мгновенно".

***

## Вместо послесловия

За 55 лет, с 1946 по 2001 год включительно, в белорусский Союз писателей было принято 458 литераторов, в среднем восемь человек в год. Существовал строгий и справедливый отбор. За семь лет, с 2005 по 2013 год, СПБ, возглавляемый Н.Чергинцом, вырос до 600 членов. Чуть не по 100 человек в год рекрутировали. Кого только не принимают!

При нормальной власти Н.Чергинца давно отправили б к... внукам на дачу, а он по-прежнему на орбите.

**Вячеслав ДАШКЕВИЧ.**

*Минск.*

РОЗДУМ

# Хто «закалыхвае» беларусаў?

*“Мне сніўся сон: мяне не разумелі”.*

**Н.Гальпяровіч. “Сон”**

Агульнавядома, што родная мова фарміруе нацыю, з’яўляецца дзяржаватворным фактарам і краевугольным каменем бяспекі краіны. У адной з тэлеперадач “Дыя@блог” (БТ-3) з удзелам дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі РБ спадаром Уладзімірам Адамушкам, размаўляючы аб лёсе беларускай мовы, вядучы Навум Гальпяровіч сказаў: *“Яна* (мова. — **А.Р.**) *абаронена дзяржавай”.* У.Адамушка падтакнуў яму: *“Няма аўральнай сітуацыі з мовай”.* Яшчэ раней у адной са сваіх перадач Н.Гальпяровіч казаў, што *“беларуская мова знаходзіцца ў лепшых умовах, чым шатландская”.* Каб эфект быў мацнейшым, я скажу, што ў параўнанні з этрускай, хацкай, урарцкай, шумерскай мовамі, якія ўжо вымерлі, беларуская мова знаходзіцца ў яшчэ лепшых умовах, чым з шатландскай. Праўда, беларуская мова зараз на шляху да гэтых моў, якія ўжо вымерлі.

Пасажы спадара Гальпяровіча нагадалі мне працу У.Леніна “Партийная организация и партийная литература”, у якой ён падкрэсліваў, што галоўным крытэрыем свабоды друку павінна быць слугаванне яго (друку) не *“верхним десяти тысячам”* (уладзе. — **А.Р.**), а народу.

Для мяне дзяржава — гэта перш за ўсё народ, улада — вытворнае ад народа, другаснае. Паколькі “белорусская” ўлада аддзялілася ад народа, не раіцца з ім, глухая да таго, што аб гэтым гавораць і пішуць простыя людзі, то я не лічу “белорусское” тэлебачанне “дзяржаўным” (народным і свабодным). Я лічу яго праўладным і несвабодным. Гэта значыць, што і перадачы, і людзі, якія працуюць на тэлебачанні, абслугоўваюць, па словах У.Леніна, не народ, а *“верхние десять тысяч”* — уладу. Улада менш за ўсё мае права гаварыць ад імя дзяржавы, толькі народ мае на гэта права. А ўлада павінна служыць народу.

За амаль 20 гадоў праўлення гэтай улады я на тэлевізійным экране так і не ўбачыў лепшых людзей Беларусі — двух сёння жывых класікаў беларускай літаратуры, **народных** паэтаў Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна. Значыць, тэлебачанне не народнае, раз не запрашае народных паэтаў да сябе! А чаму не даць слова выдатным паэтам А.Вярцінскаму, Г.Бураўкіну, мастакам А.Марачкіну, М.Купаву, рэжысёру В.Мазынскаму, галоўнаму рэдактару “Народнай Волі” І.Сярэдзічу і іншым знакамітым людзям, якія ўжо ўнеслі ў культуру Беларусі значны ўклад! Ім ёсць што сказаць народу. Можа, нават больш, чым сказаў за ўвесь час свайго праўлення прэзідэнт. Яны ж, як і кожны беларус, з’яўляюцца часцінкай народа, а значыць, і часцінкай “крыніцы” ўлады. Ды пляваць хацела ўлада не тое што на “часцінку”, а і на ўсю “крыніцу”! У выніку мы бачым на тэлеэкране добра зрэжысіраваныя спектаклі.

Дык каго меў на ўвазе Н.Гальпяровіч, калі казаў, што мова *“абаронена дзяржавай”:* народ ці ўладу? Калі народ абараняе мову, дык гэта няпраўда, народ, на жаль, не абараняе нават роўнасць беларускай і рускай моў. Калі ўлада — таксама няпраўда. Як яна абараняе, дык лепш бы ўвогуле не абараняла! У Беларусі спрэс рускамоўная адукацыя, а як казалі вялікія педагогі ўсіх часоў, адукацыя эфектыўна ажыццяўляецца толькі на роднай мове. Улада, з-за свайго непрафесіяналізму, не разумее, што, пачаўшы моўна-культурнае Адраджэнне, народ адродзіць і эканоміку. Калі-небудзь будучыя беларускія вучоныя навуковым шляхам дакажуць, што не эканоміка — рухавік культуры, а культура — рухавік эканомікі. Цяпер разумееце, паважаныя чытачы, чаму ў нас няма нармальнай эканомікі?

Ці разумее Н.Гальпяровіч, у паэзіі якога столькі любові да роднай мовы, што ні народ, ні ўлада не абараняюць родную мову? Ці разумее спадар У.Адамушка, што ў Беларусі з роднай мовай у нас не толькі “аўральная сітуацыя”, а поўны генацыд! Дазволю прывесці значэнне слова “генацыд”, прынятае ў міжнародным праве, яго вы не знойдзеце ні ў беларускіх, ні ў расійскіх тлумачальных слоўніках, бо там “генацыд” разглядаецца толькі як фізічнае знішчэнне народа. *“Генацыд — гэта знішчэнне груп ці супольніцтва не толькі фізічным спосабам, а і іншымі спосабамі, якія падвяргаюць рызыцы само існаванне гэтага супольніцтва ці групы”.* Вось яны, гэтыя “іншыя спосабы”, а дакладней — прычынна-выніковы ланцуг, які прывёў беларускі народ да дэградацыі і вядзе яго да фізічнага знікнення: русіфікацыя, саветызацыя — рускамоўнае бескультур’е — бездухоўнасць. Бездухоўнасць, на думку вучоных, з’яўляецца галоўнай прычынай вымірання народа. Формула ж выжывання народа такая: мова — культура — духоўнасць (не толькі царкоўная!) — эканоміка.

Улада адчула, што нацыяналізм беларусаў мацнее, усё больш і больш людзей разумее, што беларускай Беларусі Лукашэнка будзе не патрэбны, таму вырашана тэрмінова праз паслухмянае тэлебачанне супакоіць, закалыхаць беларусаў, маўляў, аўральнай сітуацыі з роднай мовай няма, яе абараняе “дзяржава” (народ і улада). Але ж гэта, мякка кажучы, няпраўда. Нават апазіцыя не бароніць мову, што ўжо тут казаць пра народ і ўладу! Абараняе мову невялікая колькасць інтэлігенцыі і некаторыя чытачы, якія пішуць у “Народную Волю”.

Вось якую казачку я пачуў ад тэлевядучага Н.Гальпяровіча. Таму прапаную яму назваць сваю перадачу “Калыханка для дарослых ад улады”, дзе і далей ён можа баяць свае-несвае “казкі-сны”, якія не будуць разумець людзі. І гэта неразуменне не будзе сном паэта...

**Алесь РАШЧЫНСКІ,**
**кампазітар.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Умылі рукі

*Мяне вельмі хвалюе тэма размяшчэння ў Беларусі расійскіх ваенных баз. Проста ў галаве не ўкладваецца, навошта наша краіна лезе ў разборкі паміж вялікімі дзяржавамі? Тым больш што па Канстытуцыі Беларусі наша дзяржава нейтральная. Чытаў у “Народнай Волі”, што апазіцыйныя партыі звярталіся ў Канстытуцыйны суд па гэтым пытанні. Але які адказ?*

**Мікалай Шаламаў,**
**г.Мінск.**

Аб’яднаная грамадзянская партыя ўжо атрымала адказ на свой зварот у Канстытуцыйны суд з нагоды стварэння на тэрыторыі Беларусі новых расійскіх ваенных баз. Як паведамляецца ў лісце за подпісам начальніка сакратарыята **А.В.Каравай,** разглядаць узнятае пытанне Канстытуцыйны суд не мае намеру, паколькі з упаўнаважаных ініцыяваць такі разгляд да іх ніхто не звяртаўся.

Нагадаем, што ў сваім звароце АГП настойвала на разглядзе Канстытуцыйным судом законнасці размяшчэння ў Беларусі расійскіх ваенных баз з пазіцыі Канстытуцыі краіны і міжнародных дагавораў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь. Але іронія нашага заканадаўства ў тым, што аспрэчваць рашэнні прэзідэнта могуць толькі органы, цалкам падкантрольныя прэзідэнту. Такім чынам, галоўны суд краіны проста ўмыў рукі.

РЕДКИЕ ЛЮДИ

# Здоровья тебе, старый дружище!

Борис Хамайда, начиная с 1996 года почти ежедневно (кроме выходных и праздников), появляется около “синего дома” — так жители Витебска окрестили жилую пятиэтажку из-за ее первоначального цвета. Однако, когда область возглавил Александр Косинец, строение перекрасили в цвет больничной палаты — белый. Тем не менее в народе дом остался “синим”. Этот адрес как визитная карточка Витебска и для гостей, и для жителей областного центра. Его все знают. И не потому, что находится он на улице Ленина, рядом с площадью Свободы и амфитеатром.



Кстати, в областном центре на расстоянии несколько сот метров находятся библиотека им.Ленина, поликлиника, которая тоже носит имя вождя пролетарской революции, в полусотне метров от “синьки” величавый бюст Ильича на площади Ленина. Правда, несколько лет назад неизвестные хулиганы отбили нос у бюста Ленина, который был установлен у входа в поликлинику. Его взяли якобы на реставрацию, да так и не поставили на прежнее место. А ведь вождь пролетарской революции просил своих партийных соратников не делать из него идола или икону. Кстати, просил и похоронить его по-христиански рядом с могилой матери в Санкт-Петербурге. Но забудем о лирике. Вернемся к лобному месту. Именно лобному, ведь отсюда Бориса Хамайду неоднократно рьяные стражи порядка увозили на “воронке” в РОВД. А затем в суд, где служители Фемиды выписывали ему миллионные штрафы или отправляли на нары в ИВС. Но сломить волю бунтаря не удалось. Его гражданская позиция тверда и постоянна. Горожане давно привыкли к седовласому распространителю газет и журналов. Возле него всегда многолюдно. Вот и накануне Нового 2014 года Борис Хамайда выступил в роли Деда Мороза. Развлекал прохожих кукольным (надетым на руку) Дедом Морозом, детишкам раздавал конфеты, а те в ответ на щедрость улыбались. А педагог, сопровождавшая одну группку ребятишек, даже удивленно спросила: “Неужели бесплатно?” Оно и не удивительно: щедрость сегодня редкость. Конечно, когда по телевизору показывают главу государства и его сыновей, подносящих детям подарки, то это, как говорят в Одессе, совсем другая разница. И неясно, из чьего кармана их щедрость.

Кстати, 8 января у Бориса Хононовича был день рождения. Ему исполнилось 66 лет. Однако пенсию он не оформляет принципиально, поскольку считает нынешнюю власть нелегитимной и получать от нее ничего не желает. Здоровья тебе, старый дружище, и долгих лет жизни во благо Отчизны! Придет и на нашу улицу праздник! А благодаря таким, как ты, — придет быстрее.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

*Витебск.*

ТАК ДУМАЮ!

## Китайское — недолговечное

Много шума было в 2013 году, что вот, наконец, появятся белорусско-китайские автомашины. Да, они собираются в Борисове, но покупают их очень мало, предпочитают европейские или корейские. Все дело в том, что нет гарантии, что они будут исправно работать много лет, как, например, когда-то те же “Жигули”.

Сейчас все магазины только и предлагают китайские вещи, начиная от болтов, шурупов до пил, дрелей, генераторов, но они не выдерживают даже гарантийного срока — ломаются через пару недель. Так, купленная в магазине электрическая дрель вышла из строя уже через десять дней. А где же наше, белорусское?!

**П.СУХОВ.**

*г.Борисов.*

МНЕНИЕ

# О «мирных» митингах и культуре их проведения

Добрый день, уважаемая редакция!

С огромным удовольствием читаю газету “Народная Воля” с начала и до конца. У вас можно прочесть статьи на разные темы: о политике, экономике, культуре, искусстве, спорте... В отличие от тех газет, довольно скучных, где всё “в одни ворота”, на страницах вашего издания даются разные мнения читателей, ставятся острые проблемы нашей жизни, вскрываются недостатки. Тут и яркие, бьющие “не в бровь, а в глаз” материалы Светланы Калинкиной, и доказательный экономический анализ Бориса Желибо, и “памяркоўныя” материалы Елены Молочко, и многое другое.

Вот в №98 за 13.12.2013 года, например, интересная статья Александра Ольхового “Эту песню не задушишь, не убьешь!”. С удовольствием читаю публикации этого автора. Вышеназванная его статья посвящена событиям в Киеве.

Автор статьи, считаю, в целом правильно описывает как взаимоотношения Украины с Россией, так и состояние демократии в Украине, где в прессе и по телевидению можно услышать не только голос власти, но и голос оппозиции. В выступлениях по телевизору как президента Украины, так и премьер-министра нет оскорблений в адрес митингующих, их не называют “отморозками” и так далее. Наоборот, осуждаются силовые методы милиции, гражданам гарантируется безопасность даже тогда, когда, казалось бы, можно и силу применить, чтобы защититься от нападок наиболее рьяных “европейцев”. Вы знаете, почему я взял в кавычки последнее слово. Но об этом немного позднее.

Действительно, на украинском телевидении работают лучшие ведущие, имеющие неординарную точку зрения, в том числе и наш Сергей Дорофеев, равного которому нет сейчас на белорусском телевидении (во всех отношениях). Кому-то ведь нужно было, чтобы у нас на телевидении не было ярких личностей. Понятно, посредственностью легче управлять.

Однако с некоторыми утверждениями А.Ольхового не могу согласиться. Автор пишет, что “мы насмехаемся, ерничаем над нашей южной соседкой Украиной и ее жителями”. Да, действительно вызывает смех и удивление, когда депутаты дерутся между собой в парламенте, будь то Украина или другая страна. Потому что драка в парламенте явление не только смешное, но и возмутительное. Это говорит о невысокой культуре поведения депутатов. Отдельные депутаты силой навязывают свое мнение другой части парламента. Это разве не большевизм, против которого так рьяно выступают? Конечно, у нас другая крайность в Национальном собрании: полное единогласие, как в Северной Корее.

На площади Независимости города Киева (наша и российская пресса называет ее по-украински “майдан”) проходила не такая уж мирная демонстрация. Когда вели прямой репортаж, можно было видеть, как молодчики цепями и металлическими стержнями били по головам стоящих в оцеплении милиционеров. Причем тут милиция в борьбе отдельных личностей за власть? И эти люди рвутся в Европу! А памятник? Пусть даже памятник Ленину... И это культура? Это бандитизм! Когда видишь, как разбивают памятник, а осколки разбирают, чтобы их продать, это вызывает чувство мерзости, отвращения. В странах Балтии памятники сносили тоже, но не таким бандитским методом. Я никогда не был членом КПСС и никогда не был в восторге от личности Ленина, но считаю, что такое разрушение памятников — не что иное, как бескультурье и вандализм. Памятник есть памятник. Это наша история, от которой никуда не уйти. Тот, кто так относится к истории и памятникам, так же будет относиться и к инакомыслию. Если бы так избивали полицию в той же Европе или Америке, то этот митинг был бы разогнан в течение нескольких минут теми, кто сегодня так печется о нарушении демократии в Украине. Мы помним события в Париже и других городах Европы. Двойные стандарты.

Кстати, чувствуется, что митингующие выступают не столько за Евросоюз, сколько против действующей власти и за власть для отдельной амбициозной кучки людей, очевидно, даже за деньги. Одна из митингующих, студентка, призналась, что получила 150 гривен. Вряд ли она будет врать. А посмотрите, кто на площади? В основном студенты, молодежь, которых “дурманят” раем в Евросоюзе. Всякие “союзы” — прежде всего потеря независимости, причем неважно, какой это союз — Европейский или Таможенный. Жизнь уже доказала это. Таможенный союз выгоден прежде всего России, а Европейский — странам Западной Европы. К тому же работающие люди не будут неделями находиться на площади — им надо зарабатывать на жизнь.

Однако надо отдать должное руководству оппозиции: им удается “зажечь” митингующих. Возможно, в этом сказывается авторитет и спортивный талант Виталия Кличко, а об остальных двух “вождях” лучше промолчать. Им очень хочется прежде всего быть у власти.

Эти три “вождя” сегодня вместе, но как только получат власть, будут вести борьбу друг с другом, прикрываясь народом.

Власть, полученная на площади, не обязательно станет народной. Это доказано историей, в том числе и революцией 1917 года. А митингующие на площади думают, что они борются за свое благополучие.

И еще автор пишет: “Там (в областях Западной Украины) не встретишь на улицах курящего, пьяного, с огромной бутылкой пива в руках...” В какой-то степени, лишь частично, можно с этим согласиться. Мне приходится бывать иногда в Западной Украине. Повального пьянства, как а России, там нет. Однако пьют там тоже немало. У нас ведь тоже пьяного на улице не всегда встретишь, но пьет народ очень много. И курящие там есть на улице. А что касается пива, так ведь у нас до принятия закона ходили с бутылками пива по улице, но сейчас другая картина. И это связано с законопослушанием, дисциплиной и воспитанностью человека, которая вовсе не зависит от того, в каком союзе человек живет — в Европейском или Таможенном. Культуру надо воспитывать, она сама не придет, даже если страна вступит в Европейский Союз.

И еще. Сегодня митингующие разбивают памятники. А завтра...

Короче, я за мирную демонстрацию, без погромов.

А то, что в целом в Украине больше демократии, чем в Беларуси, несомненно. В этом можно согласиться с А.Ольховым.

Кстати, когда заканчивал эту статью, сообщили, что в Киеве начался также митинг сторонников власти. Вряд ли будут здесь погромы. Да и митинг продолжится, видимо, недолго — люди работают. А это уже другая Украина.

А какое ваше мнение, уважаемые читатели “Народной Воли”?

**Леонид Владимирович**
**БУЛАШ.**

*Минск.*

УРАЖАННЕ

# «Я буду радаваць бабулю»

Перад самымі Калядамі мне пашанцавала — я адчула прысутнасць вышэйшай сілы, якая ўзвышае душу любоўю да свету і жаданнем сагрэць яго. Адбылося гэта на “Калядках у Купалавым доме”, якія ладзяць супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Дзякуй ім вялікі!

Калядоўшчыкі з саламянай зоркай і Казой-прыгажуняй расказвалі дзеткам, якія прыйшлі да Купалы ў госці, пра беларускія звычаі святкавання Каляд, спявалі калядныя песні, гулялі ў Казу. Было гэта так шчыра, па-сапраўднаму, без кроплі ментарства ці фіглярства. Трэба было бачыць, з якой ахвотай і захапленнем дзеці адгукаліся на кожнае слова, запрашэнне, адказвалі на пытанні, паўтаралі за калядоўшчыкамі прыказкі, падпявалі, частавалі Казу прынесенымі пачастункамі! А якая была Каза: прыгожая і гуллівая, капрызлівая і свавольная, какетлівая і гарэзлівая! У традыцыйнай каляднай гульні бралі ўдзел і малодшыя школьнікі, і зусім маленечкія госці, і бацькі, і настаўнікі! Потым вельмі прыгожая Снягурка складала з дзецьмі тэлеграму Дзядулю Марозу і загадвала загадкі, а за адгадкі дарыла хваёвыя шышкі, да якіх былі прымацаваны каляровыя банцікі і матузочкі так, каб іх можна было павесіць на ёлку, — сапраўдны лясны падарунак! Па-каляднаму весяла было ўсім.

Паказалі калядоўшчыкі і лялечны спектакль, перад якім вядучая раздала ўсім аддрукаваны на рознакаляровых паперках “Слоўнічак для гледачоў, якія ўпершыню трапілі ў беларускі тэатр”.

А потым усе спявалі самую вядомую навагоднюю песню — “Елачку”, якую Янка Купала пераклаў на беларускую мову:

*Ўзышла у лесе елачка,*
*У лесе і расла,*
*Узімку, ўлетку стройная,*
*Зялёная была.*



Аддрукаваны на яркіх паперках тэкст таксама раздалі ўсім прысутным. Дзеці падыходзілі да шклянога куба, пад якім змешчаны зжаўцелы аркушок са звычайнага вучнёўскага сшытка, і ўслых разбіралі запісаны рукой Песняра пераклад песенькі: некаторыя радкі закрэслены, зверху напісаны новыя словы, з бакоў зроблены прыпіскі...

А напрыканцы калядак вядучая прапанавала дзеткам далучыцца да стварэння чароўнай ёлачкі. Для гэтага кожны дзіцёнак мог абвесці сваю далоньку на зялёнай паперы, выразаць нажніцамі, напісаць на ёй пажаданне і прымацаваць да намаляванай на вялікім аркушы ватмана ёлкі. Гэтае казачнае дрэва растапырыла пышныя галінкі — столькі на ёй далонек-іголак. А кожнаму, кто пакінуў сваё пажаданне, Снягурка дарыла невялічкі падарунак.

Калі я дапамагала чатырохгадовай унучцы зрабіць гэтае заданне, дзяўчынка побач задумліва вымавіла:

— Якое пажаданне напісаць?..

— Падумай, чаго ты жадаеш і каму, — параіла я.

— Я хачу напісаць маёй бабулі.

— Ну, пэўна, ты бабулі жадаеш здароўя... — з вышыні жыццёвага досведу завяла я.

— Справа ў тым, што маёй бабулі ўжо няма, — сур’ёзна і даверліва гледзячы мне ў вочы, сказала малая.

У мяне перахапіла дыханне. Ледзь зладкаваўшы с падступаючымі слязамі, я сказала:

— Мабыць, бабуля зараз глядзіць на цябе з нябёсаў. Як ты думаеш, чаго яна хоча? Пэўна, каб ты яе радавала.

Дзяўчынка згодна кіўнула.

— Ну вось так і напішы: “Я буду радаваць бабулю”.

Малая старанна вывела друкаваную літару “Я”.

— Цёця, — зноў звярнулася яна да мяне, — дапамажыце мне, калі ласка! Вы напішыце, як далей, а я перапішу.

Так і зрабілі, і яна пабегла прымацоўваць сваё абяцанне бабулі да чароўнай ёлачкі.

А я засталася з адчуваннем, нібы анёл пацалаваў мяне.

**Аляксандра**
**БАТУРЫНА.**

*Мінск.*

ПО ПОВОДУ

## Доколе?

Тема навязчивости телевизионной рекламы уже давно набила оскомину. И все-таки приходится к ней обращаться снова. Уж слишком она бывает бесцеремонной. Ну, во-первых, громкость (которую периодически обещают утихомирить, но не торопятся это сделать). Если не успеешь вовремя переключить звук при просмотре “Вестей”, то из телевизора вырывается пронзительно-оглушительная мужская скороговорка “Короне тесно!” (или “В короне тесто!” — точно не разобрать, да и не нужно). Ощущение такое, словно черт из табакерки выскочил и безумно рад своему освобождению.

Но если бы только это!.. В прошедшее воскресенье в Волгограде случилась большая трагедия, которая потрясла всех, но только не работников нашего телевидения. Вслед за горестным сообщением диктора тут же выскочило это пронзительное “Короне тесно!”. Нас с женой это просто ошарашило. Как можно было на этом печальном фоне, когда народ в трауре, давать такую рекламу?! Хотя, надо сказать, и любая другая была в эти горькие минуты неуместна. Очень жаль, что в погоне за длинным рублем, который теперь диктует все, на телевидении это не понимают.

Не хочу дальше развивать данную тему, хотя примеров рекламной аляповатости хоть отбавляй. Скажу еще вот о чем: слишком много в рекламе и ненужных, рассчитанных на невзыскательную публику, распевов. Пусть даже и прекрасными женскими голосами. Как началось некогда это протяжное “Бе-е-е-л-агропром-ба-а-анк”, после которого хочется выключить телевизор, так и продолжается до сих пор. Мода на певческую вакханалию ширится, она перекинулась из Беларуси уже и в Россию. Поют все подряд — любой рядовой текст (поэзией тут и не пахнет), любую прозу. Но больше всего всякие названия: банков, фирм, магазинов и прочего. Туалеты, правда, еще не воспевают. Не понимаю: почему молчит Министерство культуры? Неужели и ему эта певческая дребедень нравится?

**Леонид ЕМЕЛЬЯНОВ,**
**житель Минска.**

БЫЛО...

## ...Под дулом пистолета

Вспоминается время начала 50-х годов прошлого столетия. До войны в Западной Беларуси не было колхозов. Вернувшиеся с фронтов мужики говорили, что колхозов и не будет, мол, такое им обещал маршал Жуков.

Но через год-другой все изменилось. В нашу деревню из района приехали человек пять уполномоченных. И стали по одному вызывать крестьян “на беседу”. Наш сосед Михаил Пашкевич, имевший за войну семь медалей, сказал, что не хочет записываться в колхоз. Тогда в ответ услышал грозное: “Саботажник! Вот посидишь в тюрьме — узнаешь, как не выполнять решение партии!..” И к груди приставили пистолет. Но увидев в окне детвору, один из уполномоченных выскочил во двор и стал стрелять в воздух. Через некоторое время выходит сосед, руки трясутся, на глазах слезы. Вот так проходило “добровольное” вступление в колхоз.

Забрали у людей лошадей, повозки, плуги, другой инвентарь. А зимой кони начали падать, не было чем кормить. Сдохших лошадей вытягивали за деревню в лесок. Волков развелось — страшно было ходить.

Нашей семье как будто повезло. Пришел председатель колхоза и сказал: “Забирайте свою лошадь, нет кормов”. Привели мы с братом коня домой, мать вышла и заплакала. Тогда я впервые увидел: плакала и лошадь.

**Михаил ТИМОШЕВИЧ,**
**пенсионер.**

*Минск.*

